*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 160 (512)**
Пятніца, 4 верасня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Анонс**

## У сённяшнім нумары "Народнай волі" — неардынарны артыкул

# "Хто каму донар і хто ў каго дояр?"



**Валентин Распутин:**

*— Не забывайте, что 700 миллиардов российских средств ежегодно перекачивались в бюджеты союзных республик, что грабили в первую очередь русского человека... Да и теперь Россия передает в страны СНГ 17 миллиардов долларов. Тогда во имя братской дружбы, теперь во имя добрососедских отношений. А дойная корова все та же — Россия...*

**вядомага беларускага драматурга і гісторыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, аднаго з асноўных арганізатараў энцыклапедычнай справы на Беларусі, ганаровага прафесара ўніверсітэта культуры Алеся ПЕТРАШКЕВІЧА.**

На працягу пяці апошніх гадоў радком да радка стваралася кароткая хроніка памяці шматвяковых расійска-беларускіх дачыненняў, што засведчыла нечуваны ў свеце трагізм нашай Бацькаўшчыны, нашай нацыі, нашага народа.

Вядома, гэтую хроніку Алесь Петрашкевіч не мог не напісаць, а "Народная воля" не магла яе не надрукаваць напярэдадні новых выпрабаванняў і без таго зняважанай, прыніжанай, абрабаванай і выбітай нашай Айчыны.

**Алесь Петрашкевіч:**

*— Пастарайцеся, паважаны Валянцін Рыгоравіч, аблічыць вартасць і кошт хоць бы толькі таго, што я пералічыў у гэтым пісьме, і мы паглядзім тады, хто каму запазычыў і колькі! Хто каму донар, а хто ў каго дояр. Чыёй кароўцы трэба "мычать", а чыёй "помолчать". І не забудзьцеся ўключыць у аблік не толькі нашы ахвяры людзьмі і багаццямі, але і наш, як бы мовіць, працоўны ўзнос у агульную скарбонку, якую Расія прысвоіла сабе пасля распаду савецкай імперыі...*

## Запазычанасць па заработнай плаце ў сельскай гаспадарцы Беларусі складае 600 мільярдаў рублёў

З дзяржаўнага заказу, які складае 1 мільён 700 тысяч тон збожжа, на сёння дзяржаве здадзены 1 мільён тон, што складае каля 60 працэнтаў ад запланаванага. Такія лічбы на прэс-канферэнцыі паведаміў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Шакола.

Па яго словах, па нарыхтоўцы харчовага збожжа план практычна выкананы, а пшаніцы і наогул нарыхтавана на 100 тысяч тон больш, чым летась. Усяго ж яе плануецца нарыхтаваць 450 тысяч тон, з якіх каля 100—150 тысяч будзе закуплена за мяжой. "Да нас даходзяць чуткі, што ў магазінах пачалі актыўна закупаць муку", — сказаў міністр і параіў насельніцтву не хваляваццa.

Іван Шакола лічыць, што па нарыхтоўцы фуражнага збожжа дзяржаўны заказ таксама будзе выкананы. Пры гэтым частку фуражнага збожжа — прыкладна 1,5 млн. тон — рэспубліцы, як відаць, прыйдзецца закупаць. У сувязі з гэтым Мінсельгасхарч мае намер звярнуцца ў Нацыянальны банк з просьбай аб адкрыцці пад гэтыя мэты крэдытнай лініі. Тым часам у сельскагаспадарчай галіне фінансавая сітуацыя застаецца складанай. Па інфармацыі міністра, на сёння сярэдняя заработная плата ў сельскай гаспадарцы складае 2600 тысяч рублёў, што амаль у два разы менш гэтага паказчыка па рэспубліцы ў цэлым. У той жа час запазычанасць па выплаце заработнай платы работнікам сельскай гаспадаркі складае на сёння 600 мільярдаў рублёў.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

## Па даных Міністэрства адукацыі, ледзь не палова абітурыентаў-выдатнікаў не вытрымалі ў гэтым годзе прыёмных выпрабаванняў

Як паведаміў БелаПАН начальнік галоўнага ўпраўлення вышэйшай школы Міністэрства адукацыі Беларусі Валерый Дабранскі, студэнтамі-першакурснікамі дзённай формы навучання ў гэтым годзе сталі 20.500 чалавек пры 50.900 пададзеных заяў аб прыёме.

Па словах В.Дабранскага, выклікае трывогу той факт, што ледзь не палова выдатнікаў — выпускнікоў школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў і тэхнікумаў, якія паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі, — не вытрымалі прыёмных выпрабаванняў. У лічбавым выражэнні гэта 43,6 працэнта ад колькасці выдатнікаў, што паступалі. Пры сярэднім конкурсе ў дзяржаўных ВНУ 2,5 чалавека на месца (у 1997 годзе гэты паказчык складаў у сярэднім 2,2) у 14 вышэйшых навучальных установах рэспублікі ўзровень канкурэнцыі склаў больш за тры чалавекі (для параўнання: летась такіх ВНУ было толькі чатыры). У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце (БДЭУ) і Беларускім дзяржуніверсітэце (БДУ) колькасць заяў толькі ад адных абітурыентаў-выдатнікаў перавысіла колькасць месцаў: так, у БДЭУ на 950 месцаў прэтэндавалі 1408 абітурыентаў-выдатнікаў, а ў БДУ на 1740 — 2428.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

**Віншуем!**

## Ганаровае званне — цэламу аркестру

Цяпер на афішах Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі нашай рэспублікі, больш вядомага прыхільнікам у краіне і далёка за яе межамі як канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга, з'явіцца новы радок: **"Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь".** Гэтым ганаровым званнем Савет міністраў адзначыў яго выдатныя дасягненні ў галіне музычнага мастацтва і вялікі ўклад у развіццё нацыянальнай культуры.

**БелТА.**

## У Лідскім раёне будзе новы кіраўнік

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка 2 верасня разгледзеў шэраг кадравых пытанняў. Як паведаміў у БелТА кіраўнік прэс-службы прэзідэнта Уладзімір Скварцоў, прэзідэнт даў згоду на назначэнне **Іосіфа Іосіфавіча Гайдукевіча** старшынёй Лідскага райвыканкама Гродзенскай вобласці.

**БелТА.**

## Падыход Беларусі і Расіі да рэфармавання СНД супрацьстаіць пазіцыі Украіны, лічыць супрацоўнік украінскага МЗС

Падыход шэрагу краін, у першую чаргу Расіі і Беларусі, да рэфармавання СНД супрацьстаіць пазіцыі Украіны па гэтым пытанні, заявіў на брыфінгу ў МЗС Украіны начальнік упраўлення інфармацыі гэтага міністэрства Віктар Нагайчук. Ён нагадаў, што пазіцыя Украіны заключаецца ў неабходнасці ператварэння СНД у эфектыўны механізм перамоў і кансультацый, прыярытэтнасці эканамічнага супрацоўніцтва, найперш стварэння зоны свабоднага гандлю, вываду за рамкі СНД тых органаў, у працы якіх зацікаўлены не ўсе краіны Садружнасці.

Па словах В.Нагайчука, іншыя краіны не бачаць неабходнасці ў глыбокім і грунтоўным працэсе аднаўлення СНД і фактычна выступаюць за "касметычнае" рэфармаванне Садружнасці. На думку ж украінскага боку, такі падыход супярэчыць ідэі правядзення форуму па рэфармаванні СНД, задачам, пастаўленым перад яго ўдзельнікамі, а менавіта — ператварэнню Садружнасці ў дзеючы механізм, які садзейнічае эканамічным рэформам у дзяржавах-удзельніцах СНД, аптымізацыі структуры Садружнасці, дэмакратызацыі працэсу прыняцця рашэнняў, устраненню дубліравання Садружнасцю функцый і органаў ААН, АБСЕ і іншых міжнародных арганізацый.

**УНІАН—БелаПАН.**

## С почетными званиями!

Президент Республики Беларусь Александр Лукашенко подписал указ о присвоении группе белорусских спортсменов почетного звания **"Заслуженный мастер спорта Республики Беларусь"** за отличные спортивные результаты, достигнутые на чемпионате мира в 1998 году. Теперь это звание будут носить спортсмены-инструкторы национальной команды по художественной гимнастике **Татьяна Валерьевна БЕЛАН, Анна Леонидовна ГЛАЗКОВА, Ольга Юрьевна ЗАЙЦЕВА, Анастасия Александровна ЗВОРЫКО, Ирина Валерьевна ИЛЬЕНКОВА и Галина Геннадьевна МАЛАШЕНКО.**

***

За большой личный вклад в развитие музыкального искусства, высокое профессиональное мастерство указом главы белорусского государства художественному руководителю главного военного оркестра Вооруженных Сил Республики Беларусь **Михаилу Ивановичу БЕРСОНУ** присвоено почетное звание **"Народный артист Беларуси".**

Оба указа подписаны 2 сентября 1998 года.

**БелТА.**

## Айцец Ян Матусевіч



**2 верасня раптоўна на 51-м годзе жыцця памёр дэкан грэка-каталіцкай царквы, настаяцель прыходу св.Язэпа айцец Ян (Іван Іванавіч Матусевіч). Айцец Ян нарадзіўся ў вёсцы Камянцы непадалёк ад Заслаўя. У 1972 г. ён скончыў рэжысёрскі факультэт Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, але па прафесіі не працаваў, бо адчуў пакліканне да святарскай службы. У цяжкіх умовах атэістычных часоў, калі Унія знаходзілася пад забаронай, айцец Ян спачатку скончыў праваслаўную семінарыю ў Смаленску, а потым каталіцкую духоўную Акадэмію.**

**Але душа яго ляжала да веравызнання продкаў. Менавіта таму ён, як толькі пачалася перабудова, з дазволу духоўных улад стаў першым у Беларусі грэка-каталіцкім святаром, узначаліўшы тым самым адраджэнне царквы, да якой належала ў свой час 80% беларусаў.**

**Ян Матусевіч быў багата адораным чалавекам. Ён захапляўся літаратурай, добра ведаў і любіў беларускую паэзію і гісторыю. Быў членам Біблейскага таварыства. Актыўна ўдзельнічаў у працы ТБМ. Будучы гарачым патрыётам Бацькаўшчыны, ён першым у Беларусі пачаў праводзіць богаслужбу па-беларуску. Асвяціў памятны крыж у Курапатах. Ішоў на чале першага Чарнобыльскага шляху ў 1989 г.**

**Як чалавек Ян Матусевіч валодаў мяккім, нязлосным характарам, але цвёрдай воляй і смеласцю. Яго ўнёсак у духоўнае адраджэнне беларускага народа цяжка пераацаніць. Таму ён карыстаўся вялікай павагай і любоўю сваіх прыхільнікаў. А ягоная смерць — гэта страта для ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны.**

**Упакой, Госпадзі, душу раба твайго Яна.**

***БЕЛАРУСКІЯ ГРЭКА-КАТОЛІКІ.***

***Развітацца з целам айца Яна будзе можна ў Чырвоным касцёле вечарам у пятніцу і раніцай у суботу. Пахаванне адбудзецца 5 верасня на Кальварыйскіх могілках.***

**Криминал**

## Работники милиции "почистили" арсеналы торговцев оружием

Сразу несколько случаев изъятия оружия фигурируют в последние дни в сводках брестских милиционеров. У двух молодых людей, прибывших в город над Бугом из Закавказья, было обнаружено два новеньких пистолета со специальными приспособлениями и глушителями. Торговцев этими стволами задержали ночью на бульваре Шевченко при попытке сбыта оружия. Однако оказалось, что это был не весь их "товар". Еще два пистолета было обнаружено у безработной двадцатилетней брестчанки, которая в свою очередь попросила одиннадцатиклассника одной из городских школ припрятать пару стволов у себя дома.

В другом случае в качестве продавцов боеприпасов решили попробовать себя два совсем юных брестчанина. Их задержали в центре города с тяжелыми сумками, в которых оказалось шесть тысяч патронов к автомату Калашникова и тридцать тысяч — к пистолету Макарова. А буквально через несколько часов опять же в центральной части города был задержан еще один гражданин, имевший при себе пистолет и крупную сумму денег. По всем этим фактам возбуждены уголовные дела, ведется следствие.

**Иван КУКСА, БелТА.**

Брест

**Беспредел**

# СУД НАД ОППОЗИЦИЕЙ

*Как сообщалось, 28 августа прошел скоротечный суд над активистами Хартии-97 Олегом Бебениным, Дмитрием Бондаренко и Валерием Щукиным. Людей, которые осмелились 3 июля с.г. пройти по столичному проспекту Ф.Скорины с плакатами "Свободу политзаключенным!" и "Свободу депутату Климову!", судья Жанна Левицкая признала виновными в нарушении порядка организации и проведения собраний, митингов, уличных шествий и демонстраций. Первым двум "правонарушителям" она объявила предупреждения, а депутату В.Щукину выписала штраф — 20 минимальных заработных плат, вплотную приблизив его к 100-миллионной отметке административных штрафов.*

*Судебный процесс, как обычно, прошел по отработанной схеме: оглашение милицейского протокола — выслушивание объяснений "правонарушителей", не признающих себя виновными, — показания свидетелей — работников милиции, которые "видели" представших перед судом граждан на месте "происшествия", — зачитывание имеющихся в деле документов — короткая резолюция судьи "признать виновным..." и "подвергнуть...".*

*Ниже мы приводим две публикации, написанные разными людьми, но созвучные в своих оценках по поводу мероприятия, все еще называемого судом. Доколе же будет длиться такое правосудие?*

## Судья Жанна Левицкая лишила обвиняемого юридической помощи

*Как и следовало ожидать, зал заседания №3 суда Московского района г.Минска, где проходил процесс по делу активистов Хартии-97, был переполнен. Судили белорусских граждан, которые 3 июля 1998 года шли с политическими требованиями по центральному проспекту столицы, заполненному тысячами взрослых и детей.*

Первым перед судом предстал 24-летний Олег Бебенин. Процесс над ним длился 19 минут. За это время судья Жанна Левицкая выяснила, что обвиняемый — безработный, имеет на иждивении неработающую жену и четырехлетнего сына. Узнала, что Олег Бебенин пришел на проспект в соответствии с решением Мингорисполкома, организовавшего в тот день массовое гулянье, посвященное Дню освобождения.

По мнению же активиста Хартии-97, нельзя праздновать освобождение, когда белорусские граждане томятся в тюрьмах за политическую деятельность. Руководствуясь Конституцией нашего государства, молодой человек пытался довести эту мысль до соотечественников. Свои требования к властям — "Свободу политзаключенным" — Олег Бебенин изложил на транспаранте, поскольку говорить что-либо и даже кричать в тот день не имело смысла: через каждые несколько десятков метров гремела музыка, пели и плясали артисты.

Действия активиста Хартии-97 были, по-моему, в рамках Конституции. Невиновность "правонарушителя" подтвердили и свидетели-милиционеры. Нарушений общественного порядка в действиях обвиняемого они не усматривали и каких-либо требований в тот день к Олегу Бебенину, гуляющему с транспарантом среди народа, не предъявляли.

Отсутствие состава правонарушения было очевидным. Но... перед судьей лежал протокол, в котором районное милицейское начальство написало — *нарушитель*, а в зале сидел майор-надзиратель из городского управления милиции. Полагаю, только этим объясняется вынесенное судьей Левицкой определение: **виновен, объявить предупреждение**.

Следующим на скамью подсудимых сел 35-летний Дмитрий Бондаренко. Заработная плата — 500.000. Имеет жену и 11-летнюю дочь. "Хватает ли вам таких денег?" — спросила судья. Перефразируя Владимира Маяковского, ответ достоин того, чтобы быть помещенным в газете. Дмитрий Евгеньевич ответил: "Президент страны сказал, что летом мясо нам есть не надо, а на хлеб и творожок хватает".

Свидетелей по этому делу Жанна Левицкая заслушивать не стала. Суду и так было все ясно, а потому процесс над Дмитрием Бондаренко был короче и занял всего 14 минут. Оставив без ответа вопрос обвиняемого, задержаны ли те, кто 3 июля на Октябрьской площади в присутствии женщин, детей, прессы, телевидения с матом и кулаками бросался на активистов Хартии-97, судья Левицкая вынесла постановление — **виновен, объявить предупреждение**.

Данное решение суда Московского района создало опасный для белорусского общества прецедент. Апологеты (сторонники) главы государства могут, оказывается, абсолютно безнаказанно пускать в ход кулаки и словесно оскорблять граждан. Молодчиков, устраивающих бесчинства в поддержку первого президента, милиция не задерживает, не фотографирует, не запечатлевает на видеопленке.

Видимо, правы те, кто называет эти хулиганствующие элементы провокаторами. И в самом деле, оштрафованы и отправлены за решетку сотни белорусских граждан, требующих изменения внешней и внутренней политики властей. Для выявления недовольных затрачены километры пленки и миллиарды рублей. Но ни один из тех, кто в ходе мирных демонстраций трудящихся переворачивал милицейские машины, бросал камни в солдат ОМОНа и окна зданий, срывал официальные флаги, на скамью подсудимых не попал.

Судебный процесс над третьим активистом Хартии-97 56-летним Валерием Щукиным длился 45 минут. Рассмотрение дела Жанна Левицкая начала с того, что отклонила ходатайство обвиняемого о юридической помощи.

Ни в одном цивилизованном государстве мира нет закона, позволяющего лишать обвиняемого юридической помощи. И в Республике Беларусь статья 62 Конституции провозглашает право каждого гражданина "пользоваться в любой момент помощью адвокатов и других своих представителей в суде".

Неотъемлемое право на юридическую защиту гарантируется также законами белорусского государства. В частности, статья 247 Кодекса об административных правонарушениях подтверждает право обвиняемого "при рассмотрении дела пользоваться юридической помощью адвоката". А защищать Валерия Щукина должен был доктор юридических наук, профессор, экс-судья Конституционного суда М.Пастухов.

Видимо, столь высокие титулы защитника испугали судью Левицкую. Ведь пользуясь юридической помощью, оппозиционный парламентарий выиграл у милиции два предыдущих судебных процесса и потребовал от должностных лиц официальных извинений за неправомерные аресты и нарушения закона, допущенные при составлении протоколов. А признавать свою вину нынешние власти ой как не хотят. И вот уже который месяц начальники Советского и Ленинского районных управлений милиции, как зайцы, прячутся от Валерия Щукина, образно говоря, по кустам.

Руководство милиции Московского района однажды уже приносило извинения настырному депутату. Перспектива повторения этой процедуры явно не прельщала начальника управления. О дальнейшем можно лишь предполагать, поскольку Жанна Левицкая находится в его оперативном подчинении, и даже кабинет судьи расположен в здании РУВД.

Милиция Московского района настолько бездарно подготовила обвинение, что Валерий Щукин и без юридической помощи указал судье на многочисленные нарушения, не позволяющие далее вести судебный процесс:

— в протокол после подписи обвиняемого внесены дополнения и изменения;

— не верно записаны паспортные данные "правонарушителя";

— не указано, какие статьи нарушены и в чем суть правонарушения;

— не назван нормативный акт (закон, декрет, указ), предусматривающий ответственность за данное правонарушение.

Но Жанну Левицкую и это не остановило. Не прекратила она слушание дела даже тогда, когда выяснилось, что на заседание суда не явились свидетели обвинения, указанные в протоколе. Вынести частное определение в адрес начальника Московского РУВД, не обеспечившего явку свидетелей, и отложить дело судье Левицкой оказалось не под силу. Заслушала для видимости первых попавшихся на глаза двух милиционеров, но так и не услышала от них подтверждений вины Валерия Щукина. Тем не менее Жанна Левицкая именем Республики Беларусь объявила: **виновен, подвергнуть штрафу в 5 миллионов рублей**.

Валерий Щукин, подписывая в Московском РУВД протокол, на отведенных 10 линейках написал всего одну фразу: "Это — агония режима!". Видимо, так оно и есть.

**Данила ХАЛЕЦКИЙ.**

**Независимая экспертиза**

## На каком основании не соблюдается Конституция?

Поводом для настоящей публикации стало то, что при рассмотрении дела об очередном "правонарушении" депутата Верховного Совета Валерия Щукина судья Московского района г.Минска Жанна Левицкая отклонила его ходатайство о допуске на процесс юридического представителя (в этом качестве он просил выступить меня). В результате человек-легенда, гроза белорусской милиции оказался перед судьей без юридической защиты. И хотя он такой ситуации, как показал судебный процесс, не испугался, но смею заверить, что его конституционные права были судом нарушены.

Да, Кодекс об административных правонарушениях предусматривает две возможности юридической защиты прав лиц, привлеченных к суду: допуск к участию в деле законного представителя (ст.249) и приглашение адвоката (ст.250). Но ведь, кроме Кодекса, в белорусском государстве есть Конституция, даже две: одна — принятая в законном порядке, которая учредила должность президента и на которой клялся в верности ее положениям первый президент, другая — которую президент предложил на республиканский референдум с нарушением многих законодательных норм и которую он признает в качестве новой Конституции белорусского народа. В обеих редакциях конституций (в этом они совпадают) закрепляется право каждого на юридическую помощь для осуществления и защиты прав и свобод, в том числе и право пользоваться в любой момент помощью адвокатов **и других своих представителей в суде** (подчеркнуто мною. — **Авт.**).

Международно-правовые акты, которые признала Беларусь в период своего демократического развития и от которых официально не отказалась до настоящего времени, не позволяют лишать гражданина, представшего перед судом, права на помощь своего юридического представителя. К этому, в частности, обязывает Международный пакт о гражданских и политических правах (ст.ст.2, 5, 14). Совершенно определенные нормы по этому поводу записаны также в документах ОБСЕ (Совещания по безопасности и сотрудничеству в Европе). Например, в итоговом документе Копенгагенского совещания 1990 года страны — участницы ОБСЕ взяли на себя обязательство, что "каждый человек будет обладать эффективными средствами правовой защиты против административных решений...", а сами административные решения, направленные против какого-либо лица, "будут полностью обоснованными и должны, как правило, содержать указание на имеющиеся обычные средства правовой защиты". Для тех судей, которые хотят побольше почитать об этих нормах, указываю источник: "Сборник международных документов "Права человека и судопроизводство" (стр.31—43, 91—100).

Так на каком же основании лишили депутата Верховного Совета 13-го созыва В.Щукина права на юридическую помощь? Неужели для судей Беларуси Конституция перестала быть святыней и руководством к действию? И неужели возможность засудить оппозиционера стала для судьи важнее обязанности "неукоснительно соблюдать Конституцию и законы Республики Беларусь, быть справедливыми и непредвзятыми"?

Судьи! Не пора ли задуматься над тем, что вы делаете и во что превращается наш суд — самый гуманный в мире?

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**профессор права, которому отказали в праве быть представителем в суде.**

**Надвор'е**

**4 і 5 верасня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі 4-га па ўсходзе пройдуць кароткачасовыя дажджы. Вецер паўночны з пераходам на паўднёва-ўсходні, умераны. Тэмпература паветра ўначы +3...+8, удзень 4-га +13...+18, 5-га +15...+20.**

**Падзея**

## У Глускім раёне знойдзена нафта

Поспехам увянчалася праца брыгады майстра Валерыя Яцухны з мазырскай нафтаразведачнай экспедыцыі вытворчага аб'яднання "Белгеалогія" ў Глускім раёне Магілёўскай вобласці. Пры выпрабаванні свідравіны №10 на Нова-Драздоўскай плошчы атрыманы прыток нафты аб'ёмам да 13 кубаметраў у суткі, паведаміў карэспандэнту БелТА галоўны геолаг па нафце і газе аб'яднання "Белгеалогія" Яраслаў Грыбік.

Дарэчы, днямі ў Беларусі будзе здабыта 100-мільённая тона нафты з моманту пуску ў эксплуатацыю першых свідравін, які адбыўся ў 1964 годзе. Разведчыкам нафтавых рэсурсаў рэспублікі асабліва прыемна сёння адзначыць, што з названага юбілейнага аб'ёму 77,2 мільёна тон здабыта з радовішчаў, адкрытых спецыялістамі аб'яднання "Белгеалогія". Астатнія 22,8 мільёна тон — у актыве вытворчага аб'яднання "Беларуснафта".

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

Народная Воля

4 ВЕРАСНЯ 1998 г.

# І ХТО Ў КАГО ДОЯР?

абозы — фуражу. І паліў ён не расійскія, а беларускія паселішчы. Аказаўшыся перад вогненнай заслонай, 40-вярстовая калона шведскага войска і абоза стала кідацца з боку ў бок ды рабіць зігзагі, а Беларусь запылала смяртэльным полымем і не столькі смяртэльна небяспечным для войска Карла, колькі для яе жыхароў. Гарэла ўсё, што магло гарэць, — гарады, замкі, маёнткі, вёскі, лес, і не было для мірных людзей паратунку спачатку ад агню, а потым ад холаду, голаду і хвароб. А войскі Карла тым часам, хоць і не напрамкі, але ад Гародні да Лясной пад Магілёвам дайшлі. І ніякая халера з імі не здарылася, бо шведскі кароль быў не дурнейшы за расійскага імператара.

Будучы саюзнікам караля Польскага супраць караля Шведскага, мінхерц паводзіў сябе на нашай зямлі, як сапраўдны акупант і разбойнік. Па яго асабістым загадзе да звання былі спалены Віцебск і Магілёў, разбураны многія замкі, манастыры, маёнткі. Уваходзячы ў беспрычынны гнеў і кураж, імператар сам узрываў і паліў храмы, рабаваў і знішчаў святыні, казніў духоўнікаў, калі яму здавалася, што яны не “истинно православные”. Не адставалі ў гэтым ад мінхерца і “птенцы гнезда Петрова”, ператвараючыся ў сапраўдных сцярвятнікаў.

Пажары, пагромы, голад, эпідэміі давяршылі чорную справу вялікага плотніка па “рубке окон”. Беларускі край на дзесяцігоддзі ахінуўся змрокам галечы і разбурэння. Калі не верыце, Валянцін Рыгоравіч, звярніцеся да дакументаў. Іх навалам. І не толькі па Пятроўскай эпосе. З гэтае прычыны я і не даю паасобныя зноскі.

Унесла сваю немалую лепту ў беларускае няшчасце і Кацярына ІІ. (Чалавечыя ахвяры засталіся непадлічанымі, бо былі незлічонымі.) З дапамогай “светлейшего” князя Аляксандра Васільевіча Суворава і яго “чудо-богатырей” гэта “просвещенная императрица” ўтапіла ў крыві беларуска-польскае паўстанне супраць расійскіх акупантаў пад кіраўніцтвам слаўнага Героя беларускага і польскага народаў Андрэя Тадэвуша Касцюшкі. Дарэчы, яшчэ Героя і грамадзяніна ЗША. З 200-годдзем задушэння гэтага паўстання Вы, Валянцін Рыгоравіч, мелі магчымасць павіншаваць Беларусь летам 1994 года. Кацярына ІІ, як вядома, і аб'явіла замест паніхіды па ўбіеннай Беларусі яе “добровольное вхождение в состав Российской империи”. Менавіта з гэтага і пачалося наша “кровное братство”. За сваю бліскучую вікторыю над мужыкамі “светлейший князь” атрымаў чарговае генеральскае званне, ордэн і маёнтак у мясцінах свайго разбою з 15.750 душамі прыгонных мужчынскага полу. Беларусь жа атрымала сабе ў нацыянальныя героі самага бруднага ката, ад якога да гэтага часу адмыцца не можа, паколькі яго вайсковы геній і маральны воблік для пэўнай катэгорыі грамадзян Расіі, раскватараваных на нашай зямлі, застаюцца неператузыдзенымі і “особо чтимыми”. А бедны беларус ды і рускі таксама да гэтага часу зразумець не могуць, каго ім больш адначасова шанаваць: Ямельку Пугачова, які падняў народ супраць імператрыцы, ці яе фельдмаршала Суворава, які тое паўстанне, як і наша, задушыў, а самога народнага героя Ямельку ў Маскву на кару ў драўлянай клетцы прывёз. Тым не менш у Беларусі “светлейшего князя” ўвекавечваюць Сувораўскае вучылішча, мемарыяльны музей і больш за 50 тапанімічных найменняў. Нават вёску, у якой нарадзіўся А.Т.Касцюшка, умудрыліся ўключыць у склад калгаса імя Суворава. Так што, шаноўны Валянцін Рыгоравіч, Вы можаце быць у поўным спакоі за жывучасць расійскай традыцыі ў нашай “суверэннай”, “незалежнай” і “нейтральнай” дзяржаве. Расійскія героі — нашы каты — у нас не паміраюць. Праўда, і свае пакуль не ўваскрасаюць. Хоць зрухі ўсё ж ёсць. Святкаванне 200-годдзя з часу задушэння нацыянальнага паўстання нашым урадам усё ж было праведзена, хоць і са скрыгатам зубоўным. На ім у першы і, відаць, апошні раз наш прэзідэнт выступіў на мове свайго народа.

Даруйце за адступленне ад нашых вам рахункаў. Ваш фельдмаршал і наш прэзідэнт да слова прыйшліся...

...Наступным пакараннем Боскім за чужыя грахі для беларусаў была яшчэ адна чужая нам вайна. За парушэнне “Тэльзіцкага міру” Напалеон І вырашыў правучыць Аляксандра І, а можа, толькі скарыстаў той ганебны факт, і перайшоў Нёман. Многія тысячы беларусаў былі адмабілізаваны ў войска імператара Расіі без аніякага іх энтузіязму. А беларускія палкі з вялікім энтузіязмам сталі пад бел-чырвона-белыя штандары і далучыліся да войска імператара Францыі.

Авантура двух імператараў, што правялі ваенную кампанію на нашай тэрыторыі, каштавала жыцця кожнаму чацвёртаму беларусу, і не столькі на палях бітваў, колькі ад рабаўніцтва, расстрэлаў, разбурэнняў, бежанства, голаду і галечы.

Пасля раскрыжавання Каўказа мора нашай крыві праліла яго імператарская вялікасць Аляксандр ІІ са сваім любімцам генералам Мураўёвым, разграміўшы сялянскае паўстанне за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ад каланіяльнага расійскага рабства пад кіраўніцтвам нацыянальнага Героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. Святкуючы перамогу над разгромленымі касінерамі (асноўнай зброяй у мужыкоў былі косы ды вілы), царскі генерал пахваляўся, што ён “не из тех Муравьевых, которых вешают, а из тех, которые вешают”. І ў гэтым прызнанні крывавы кат не хлусіў. Вісельнямі, як вярстовымі слупамі, была ўпрыгожана зямля Беларусі. Любіў генерал вешаць і на дрэвах. Да нядаўняга часу захоўваліся ў нашым краі бары і дубровы, у якіх Мураўёў рабіў масавыя кары. Цяпер іх ужо няма. Знішчаны бальшавікамі ў імя інтэрнацыянальных пачуццяў да брацкай Расіі. Ахвяры гэтага разбою таксама не падлічаны.

На нашай Богам праклятай і бласлаўленнай зямлі, а не на нейкай іншай, правёў сваю апошнюю вайну і апошні расійскі імператар, да якога так нечакана і ярка “воспылала любовью” частка рускага народу. Яшчэ крыху — і вернуць той бойні ганаровае найменне Вялікай Айчыннай вайны 1914—1917 года... Вынікам жа яе для Беларусі былі, ужо ў які раз, разбураныя гарады, выпаленыя вёскі, каля двух мільёнаў бежанцаў, голад, мор і ў выніку смерць кожнага пятага з яе жыхароў. Таму бяру на сябе смеласць заявіць, што для беларусаў Мікалай ІІ святым наўрад ці стане. Дарэчы, аб святасці расійскіх праваслаўных іерархаў усіх часоў. Яны “ничтоже сумняшеся” бласлаўлялі ўсе вялікія кровапусканні на “Белай Русі”.

...Пацярпіце, Валянцін Рыгоравіч, гэта яшчэ не ўсе пералічэнні нашых бед і пакут, нават калі вам ужо чуецца вечны трупны смурод над “Белай Руссю”, як наш край сёння з нейкім асаблівым выклікам называюць “истинно-русские патриоты”, каб ніхто ўжо не сумняваўся, што Беларусь — гэта Русь, толькі белая. Маршал Шапашнікаў у інтэрв'ю маскоўскаму тэлебачанню яшчэ лепш сказаў: “Белоруссия — это все-таки Руссия, с ней мы о коллективной безопасности договоримся”. (Дзе ж яму яшчэ такіх верных ваяроў узяць і такі плацдарм знайсці, як не на Беларусі?)

Вялікая рэвалюцыя прынесла нашаму краю не менш вялікія ахвяры. Яна была прычынай і следствам апошняга, як нам здавалася да нядаўняга, чацвёртага расчлянення яго жывога арганізма, раздачы яго зямель разам з насяленцамі “сопредельным” дзяржавам. Масавыя рэпрэсіі супраць выдуманых ворагаў абышліся майму народу ў зноў жа пакуль яшчэ да канца не падлічаныя сотні тысяч жыццяў. Калі вы думаеце, што беларусы здуру самі сябе стралялі, то вельмі памыляецеся. У пару самага разгулу рэпрэсій кіруючыя кадры з беларусаў па нацыянальнасці ў БССР не складалі і дзесяці працэнтаў. А што ўжо казаць за кадры “ГПУ” і “НКВД”? Яны, як і самі гэтыя органы, былі маскоўскімі, расійскімі, усесаюзнымі. Яны і “перапрацавалі” тыя сотні тысяч маіх суайчыннікаў. Больш за 600 тысяч з іх былі рэпрэсіраваны і ў большасці сваёй ліквідаваны на тэрыторыі Беларусі, астатніх праглынула тайга, тундра, капальні Урала, Сібіры, Беламора-Балтыйскі канал і іншыя будоўлі камунізму. І будзе справядліва, калі мы не будзем прыніжаць ролі крамлёўскіх, а не якіх іншых геніяльных “вождей” і іх памагатых. Больш за 2000 расійскіх ГУЛАГаў спраўна “абслугоўвалі” і маіх землякоў-беларусаў, рускіх, яўрэяў, палякаў і іншых.

І ў апошнюю ўсенародную вайну Расія, а не хто іншы, кінула нас пад ногі гітлераўскім зграям, у выніку чаго мой народ заплаціў за сваё выжыванне кожным трэцім жыццём. Трэцім, Валянцін Рыгоравіч, а не чацвёртым, як да гэтага часу сцвярджала афіцыйная прапаганда, паказваючы наш беларускі савецкі патрыятызм. На гэты раз нас на нашай зямлі забівалі цэлымі гарадамі і раёнамі. Калі б не наш лес-бацюхна, нас бы забілі ўсіх.

Беларусь часам называлі Партызанскай Рэспублікай. А дакладней было б называць нас Расстралянай Рэспублікай, або Рэспублікай-Заложніцай. Дарэчы, ёй і сёння выкручваюць рукі, каб зрабіць заложніцай цяпер ужо не толькі Расіі, а і СНД.

Але самым, як цяпер кажуць, лёсаносным падарункам Расіі адразу двум народам — беларускаму і ўкраінскаму, а часткова і свайму рускаму, было чудзішча, вынайдзейнае і збудаванае вялікім расійскім умельцам Аляксандравым “со товарищи”, чэрава якога разверзлася, а яго смертаноснае дзярмо заліло і засыпала ўсё жывое. І мільёны людзей паміраюць сёння ціхай смерцю, а высокія зладзеі сусветнай катастрофы збеглі з месца злачынства веку, кінуўшы на волю лёсу ахвяры сваёй безадказнасці і бяздарнасці. Больш за тое, іх дзяржаўныя спадкаемцы назіраюць сёння з свайго Маскоўскага далёка за тым, каб вызначыць, у які момант і на колькі віткоў павярнуць вентыль заглушкі нафтавода на Беларусь і Украіну. Чакаюць энергетычнага калапсу, каб яшчэ да смерці вярнуць тыя даўгі, на якія Вы, Валянцін Рыгоравіч, так празрыста намякнулі. Вам зусім і не вядома, што мы засталіся адзін на адзін з Чарнобылем. Нібыта Вы і не чулі пра тое, што Чарнобыль — гэта сотні Хірасім, што паасобныя элементы распаду атруцілі нашу зямлю на 25 тысяч гадоў і больш за тое. На галовы Вашых “даўжнікоў” асела 6,4 мільярды кюры. Забруджана 7000 квадратных кіламетраў нашай зямлі — дзевяць дзесятых усёй чарнобыльскай плямкі. Апакаліпсіс для нас — рэальнасць. А Вы нам пра наш доўг у нейкі паршывы мільярд долараў, калі запазычанасць раскінуць пароўну на ўсе былыя рэспублікі?! А Зюганаў пра ляноту і нахабства беларусаў?! А Жырыноўскі пра тое, што павесіць нашых дэпутатаў на тэлеграфных правадах, як “недобитых шляхтичей” з забаронай знімаць іх трупы аж 15 дзён?! Засталося, праўда, нявысветленым, чаму раптам 15 дзён забароны на тое, каб справіць святы праваслаўна-хрысціянскі звычай?! Эсэсаўцы дазвалялі нам хаваць павешаных родных і блізкіх праз тры дні.

Пабойцеся Бога, “господа хорошие”! Не хапайце праз край! Беларусь Вам — не Чэчня... Яе нялёгка загнаць у лес, але яшчэ цяжэй з лесу выкалупаць.

...Пастарайцеся, паважаны Валянцін Рыгоравіч, аблічыць вартасць і кошт хоць бы толькі таго, што я пералічыў у гэтым пісьме, і мы паглядзім тады, хто каму запазычыў і колькі! Хто каму донар, а хто ў каго дояр. Чыёй кароўцы трэба “мычать”, а чыёй “помолчать”. І не забудзьцеся ўключыць у аблік не толькі нашы ахвяры людзьмі і багаццямі, але і наш, як бы мовіць, працоўны узнос ў агульную скарбонку, якую Расія прысвоіла сабе пасля распаду савецкай імперыі. Маю на ўвазе ўклад Беларусі: у індустрыялізацыю, электрыфікацыю, асваенне Сібіры, Поўначы, Далёкага Усходу; будаўніцтва трансмагістраляў, газаправадаў, вялікай хіміі, распрацоўку і здабычу нафты, газу, вуглю, жалезных рудаў, золата, плаціны, алмазаў, уранавых рудаў; асваенне цалінных і абложных земляў і Бог ведае чаго яшчэ.

Усе гэтыя новабудоўлі і асваенні веку высмакталі з маёй зямлі ўсё жывое, працаздольнае і актыўнае. Зямля мая літаральна абязлюдзела. Спакон вякоў сялянскі, сельскагаспадарчы край наш мае сёння толькі каля 19 працэнтаў сельскага насельніцтва — у асноўным старых-удоў ды мужыкоў-інвалідаў. Усе астатнія “нетрудолюбивые и малосовестливые” ў зборачным ваенна-прамысловым цэху Расіі, размешчаным у Беларусі, куюць і звінчваюць, знішчаюць і рамантуюць начынне вайны. Яны, затурканыя, ужо нават не пытаюцца, каго ім будуць забіваць. Яны думаюць, што паднімаюць сваю эканоміку.

Некалі этнаграфічных беларусаў было не пералічыць. Цяпер іх на нашай абгрызенай братамі-суседзямі тэрыторыі пражывае не больш за 7—8 мільёнаў. Кожны трэці ацалелы беларус пражывае за межамі тэрыторыі сваёй Бацькаўшчыны, сваёй дзяржавы. Гэты фенамен ужо для Кнігі Гінеса. Такога свет яшчэ не ведаў, таму што такога дэнацыяналізаванага, выматанага, абабранага, дабітага маральна і фізічна народа, як беларускі, у свеце яшчэ не было. Сёння ён вымірае ад радыяцыі, нястачы і гарэлкі.

А зюганавы пра яго, як пра “нетрудолюбивого и малосовестливого”! А вы пра яго, як рабаўніка Расіі!

Гэту нашу забітасць і абыякавасць да свайго лёсу некаторыя называюць талерантнасцю, стрыманасцю, памяркоўнасцю беларускага народа. Відаць, менавіта гэта талерантнасць якраз і дазволіла камандаванню слаўнай Савецкай Арміі выкарыстаць для выпрабавання ўздзеяння радыяцыі ад прымянення атамнай зброі менавіта беларускія дывізіі, перакінуўшы іх з-пад Брэста на расійскія палігоны. Ці, можа, талерантная Беларусь па сваім жаданні ахвяравала на алтар дурной вайны ў Афганістане каля 800 сваіх сыноў? Ці, можа, Беларусь за расійскія грошы тую вайну сама распачала, каб пакалечыць тысячы сваіх хлопцаў? Ці, можа, яна і сёння чакае не дачакаецца, каб паслаць сваіх юнакоў гасіць расійскія гарачыя кропкі?!

Раю Вам, Валянцін Рыгоравіч, знайсці форму выражэння кошту і беларускага вайсковага плацдарма і ядзернага сховішча Расіі, у які яна ператварыла наш край дзесяткі гадоў таму назад, каб не столькі абараніць нас і сябе, колькі мець магчымасць у любы момант уехаць на сваіх танках у любы Еўрапейскі дом са сваёй інтэрдапамогай.

А яшчэ ўнясіце ў рэестры нашых пагашэнняў Вашых “крэдытаў” нашу загубленую прыроду, культуру, зруйнаваныя замкі, узарваныя саборы, запаскуджаныя святыні, разрабаваныя і вывезеныя за гады імперскага ўладарання унікальныя старажытныя бібліятэкі, сярэдневяковыя карцінныя галерэі і архівы, музейныя рэліквіі і зборы, скарбы старажытных кладаў. І асноўную святыню беларусаў — крыж Еўфрасінні Полацкай — нам не варта шукаць у далёкім замежжы. Яго трэба шукаць за Смаленскам. Туды яго знеслі эвакуатары-энкавэдысты ў 1941-м.

Пры абліку расійскіх затрат на “ленивую и малосовестливую” Беларусь не ўпусціце такіх дробязей, як яе ўдзел у аснашчэнні савецкай Арміі, у будаўніцтве авіяцыі і флота (гандлёвага таксама), у здзяйсненні касмічных праграм. Прыміце пад увагу, што мы па гарачым жаданні Масквы, а не па ўласнай дурноце, ператварылі свой цудоўны край у гігантскую свінаферму Расіі і зараз літаральна захлынаемся ў дзярме ў імя таго, каб забяспечыць мясам Маскву, Санкт-Пецярбург ды Балтыйскі Флот. Дарэчы, матросікі-балтыйцы заўсёды рэкруціраваліся з нашых гарадоў і вёсак. Так што марская слава Расіі ў адпаведнай ступені здабыта “ленивыми” і “малосовестливыми”.

Не забудзем пры падліках вялікіх ахвяр Расіі на “благо” малодшай “сястры” і пра тое, што яна вякамі, асабліва ў савецкі перыяд, накіроўвала на кармленне ў “Северо-Западный край” толькі сваіх саноўнікаў вышэйшага, сярэдняга і нават малодшага складу. Усім ім належыць галоўная заслуга ў дэнацыяналізацыі майго народа, у пагалоўным вынішчэнні інтэлігенцыі, у правядзенні рэкруцкіх набораў і працоўных мабілізацый, у ліквідацыі нацыянальнай школы, у забойстве мовы адной з паважаных нацый Еўропы, у якой яна займала некалі не апошняе месца. Манкуртызацыя беларуса, пазбаўленне яго не толькі гістарычнай памяці, але і велізарных тэрыторый — заслуга расійскага чыноўніка, расійскай гуманітарнай навукі і палітыкі на нашай зямлі. Дарэчы, зямлю сваю мы дзялілі і раздавалі не самі. За нашай спіной і без нашага ўдзелу падпісваўся так званы Брэсцкі мір, які раскалоў нашу краіну і нацыю на дзве часткі. Без адзінага беларуса Масква стварыла “ўрад” Літоўска-Беларускай дзяржавы. Без беларусаў фактычна быў створаны і першы ўрад БССР. Без ведама беларускага народа ад Беларусі была адарвана Беластоцкая вобласць з беларускім насельніцтвам, а таксама Віленская правінцыя, якая спрадвеку была населена беларусамі і па праве належала Беларусі.

І пасля ўсяго пералічанага і непералічанага, Вы смееце ад імя Расіі, на што яна Вас наўрад ці ўпаўнаважвала, папракаць нас, беларусаў, як і іншыя каланіяльныя народы, у рабаўніцтве метраполіі і выстаўляць рахункі былым калоніям да аплаты?!

...Вось калі ўсё не спяшаючыся абдумаеце, падлічыце, падсумуеце, аднiміце ад большай лічбы меншую, тады, спадзяюся, і зразумееце, хто каму запазычыў, хто каго рабаваў і прыніжаў, і каму перад кім варта картуз зняць і, нізка пакланіўшыся, ад імя і па даручэнні прабачэння папрасіць “для ради Бога”... І пры гэтым улічыць, што Беларусь — не Венгрыя, перад якой Расія свой картуз не так даўно вымушана была ламаць. Папросіць яна яшчэ прабачэння ў няшчаснай Ічкерыі і іншых. Прыйдзе час, і Расія вызваліць нас ад сваёй апекі...

Заставайцеся шчаслівым, Валянцін Рыгоравіч, ніколі не выпадайце з абоймы буйнейшых пісьменнікаў сучаснасці, па меры сіл і магчымасцяў здзяйсняйце Ваша рускае права на рускі нацыяналізм, пра які вы ўпамянулі ў сваім інтэрв'ю, але здзяйсняйце яго за свой кошт і ніколі больш “не уподобляйтесь” бухгалтару, і ад імя Расіі не выстаўляйце да аплаты рахункі тым народам, якім Расія на векі і безнадзейна запазычыла ў выніку агрэсіўнасці сваіх цароў, імператараў, генсекаў і іх камарыллі. Яны, і ніхто іншы, давялі да жабрацтва не толькі народы калоній, але і свой расійскі народ. Нарабаванне не пайшло на карысць ні царстваваўшаму дому, ні ўладарыўшаму палітбюро, ні яго “подданым”. Словам, прыйшла каза да ваза. Ад яго зараз і таньчыць нашым аднолькава абрабаваным і абяздоленым народам.

Будзем жа памятаць, што расійская распуцiншчына ў любым яе праяўленні — справа злавесная. Будзем жа спадзявацца і на тое, што ў перспектыве нашы адносіны будуць будавацца на цывілізаванай раўнапраўнай аснове, каб дружба дружбаю, а тытунь у кожнага быў бы свой. І, вядома ж, было б больш карысці для справы мацавання дружбы нашых дзяржаў і народаў, калі б падобныя публікацыі наогул не з'яўляліся. Але Вы, шаноўны Валянцін Рыгоравіч, сказалі “А”, і яно злавесным рэхам адгукнулася на Русі Вялікай.

Честь имею.

**1993—1998 гг.**

Зеркало

## Магнаты приходят к власти в России

**“Вашингтон пост” (США):**

“Более чем кто бы то ни было, Березовский помог Черномырдину вернуться к власти, и его появление у двери кабинета главы правительства стало дальнейшим подтверждением, что в России и сейчас над государством доминирует группа финансовых и промышленных магнатов, которые пользуются таким же влиянием, как политики, а иногда и большим.

Их последний переворот, фактически рекрутировавший премьер-министра России, произошел тем не менее на пике кризиса. Но возвращение Черномырдина стало знаком того, что, несмотря на все трудности России, а может быть, именно из-за них, заключен брак между деньгами и властью.

Магнаты за одни выходные поставили на пост Черномырдина, поскольку они испугались, что правительство собирается позволить рухнуть их банкам и выставит их на торги, может быть, с участием западных инвесторов. Изгнанный премьер Сергей Кириенко планировал привести наиболее слабые из них к банкротству.

Финансисты были всерьез придушены девальвацией рубля и правительственным решением вернуть лишь часть их инвестиций в государственные бумаги. Их надежды на Черномырдина были немедленно реализованы: вместо того чтобы допустить банкротство, Центробанк закачал рубли в банковскую систему, чтобы оставить ее на плаву.

В прошлом некоторые из магнатов нажились на хаосе и неуверенности благодаря валютным спекуляциям и скупке остановившихся предприятий.

Некоторые нефтегазовые бароны и сейчас получают прибыли, экспортируя за твердую валюту. Но для многих из них перспектива социальных беспорядков и краха финансового рынка становится реальностью и развеивает их надежды на экспансию и приток западного капитала. Возможно даже то, что новое правительство Черномырдина обратится против них, проводя антирыночную политику или больше преследуя государственные интересы.

Все эти люди сделали свое состояние в формирующемся государстве без утверждающегося верховенства закона, без настоящего среднего класса, без зрелого гражданского общества. Как и все великие европейские и американские магнаты, российские обогащались под крылом государства и за его счет. Они нажили состояния потому, что государство было слабым и упало в их руки, как зрелый плод".

## Наша русская ошибка

**“Монд” (Франция):**

“Уже звучит вопрос: на что пошли десятки миллиардов долларов, предоставленные МВФ России? Россия, которая уже почти 6 лет получает один за другим пакеты срочной и все более щедрой помощи со стороны МВФ, сейчас переживает беспрецедентный финансово-экономический провал. Переход этой страны к рыночной экономике завершается колоссальным крахом.

Неизбежно за вопросом о долларах МВФ следует критика: Фонд разбазарил впустую огромные суммы, которые с большей выгодой надо было употребить иначе. Мишенью стал директор-распорядитель МВФ француз Мишель Камдессю и его международная команда высокопоставленных чиновников. Мишень выбрана неправильно. Все решения Камдессю предварительно получали поддержку совета директоров МВФ и главных кредиторов — американцев, европейцев и японцев. Решение о помощи России, столь легкомысленно растранжиренной, принималось руководителями США, Германии, Великобритании и Франции, которые все это придумали и оформили.

Более того, эта помощь предоставлялась практически без условий. Именно в этом, несомненно, заключается главная ошибка Запада. Всякий раз нас заверяли, что главные цели реформ, в частности, налоговая, привязаны к очередному конверту от МВФ. Русским, мол, придется подчиниться, или же им перекроют кислород. Но всякий раз Борис Ельцин делал так, как ему заблагорассудится, возлагая на того или иного министра или премьер-министра ответственность за то, что реформы не выполняются.

Чтобы оправдать отсутствие условий при возобновляемой помощи Москве, западные руководители выдвигали один и тот же аргумент: помощь нужна Борису Ельцину, потому что-де без Ельцина в России будет хаос. По стратегическим мотивам нельзя было допустить хаос в стране, которая является второй ядерной державой в мире. В конечном итоге мы имеем и Ельцина (наверняка еще не на очень долгий срок), и хаос — экономический и социальный, а скоро, видимо, и политический.

Причины такого положения многочисленны и сложны. Они связаны с тем, что этой страны продолжают бояться, следовательно, она может шантажировать Запад. Он всегда закрывал глаза на реальность: “друзья” Ельцина, русские бароны-грабители не прекращали переводить в Швейцарию и в другие “налоговые раи” десятки миллиардов долларов, которых сейчас не хватает Москве, чтобы расплатиться с долгами. И не МВФ за это надо винить, а наш собственный взгляд на Россию".

## Рубль крутится только для российских олигархов

**“Зюддойче цайтунг” (ФРГ):**

“Расцвет банковского сектора во время первой хаотической фазы российского капитализма был возможен из-за сильных колебаний курса и высокой инфляции. Новые банки зарабатывали миллионы, а то и миллиарды на падении курса рубля. Большая часть из них была финансовой базой организованной преступности.

Согласно внутреннему исследованию ЦБ РФ, предполагается, что в середине 90-х годов три четверти банков находились под влиянием мафии. Для ФБР и БКА (Федерального криминального ведомства ФРГ отчетливо ясно, что российские банки отмыли большую часть средств, добытых международными наркодельцами. О связи с преступным миром говорит и высокое число убийств российских банкиров. В первой половине 90-х годов было застрелено около 50 из них, и ни один случай не был до конца расследован. В последние годы стало спокойнее — видимо, раздел сфер влияния завершился".

## Комитет экспертов ЕС одобрил “Виагру” и ее продажу этой осенью

**“Паис” (Испания):**

“Пилюля против импотенции — "Виагра" — начнет продаваться на территории Западной Европы до конца этого года. Это подтвердил постоянный медицинский комитет Европейского Союза. Ученые и представители министерств здравоохранения 15 стран вынесли благоприятное решение в отношении “Виагры”.

Несмотря на это, лекарство должно быть официально одобрено в сентябре Европейской Комиссией. Кроме того, эксперты предложили внести некоторые изменения в предписание по употреблению пилюли. В частности, расширяется список противопоказаний, чтобы потенциальный потребитель мог более подробно ознакомиться с вероятными рисками, вызываемыми этим медикаментом. Решено также перевести этот текст на одиннадцать языков стран ЕС до заседания комитета".

Вудсток не музейный экспонат. Мемориальное шоу «День в саду» и в этом году превратилось в буйство самовыражения.

**ФЕСТИВАЛЬ** / Рок-фестиваль в Вудстоке, США

## Ритуалы Вудстока стали традицией

ВУДСТОК – неофициальная (какой же ей еще быть!) столица контркультуры, тридцать лет назад обрушившейся на мир, как цунами. Тогда, треть века назад, она отрывала людей от корней и пускала их по ветру. На этих растительных метафорах и выросли свернувшие в сторону дети цветов. Странная это была революция – она вела не вперед и не назад, а вбок. Своей идеологией она сделала психоделический марксизм. «Наша задача, – говорил Маркс, – не объяснить мир, а переделать». «Лучше не его, а себя», – мягко поправлял Вудсток основоположника, заменяя классовую борьбу на ЛСД и рок. Гуманнее экспериментировать со своим сознанием, чем с чужим бытием. И раз реальность не снаружи, а внутри, то каждый ее может устроить по своему вкусу. Правда, и эта утопия не воплотилась в реальности, лишь чуть-чуть сместилась точка зрения. Однако этого хватило, чтобы чистое поле в ста милях от Нью-Йорка стало местом паломничества, где каждый год отправляют ритуалы Вудстока.

**Александр ГЕНИС**
Нью-Йорк

## Смертная казнь в... Интернете

*Ян Кеффелек, получивший в 1985 году Гонкуровскую премию за роман “Варварская свадьба”, первым из французских писателей приступил к написанию интерактивного романа. Издательство “Франс Луазир” решило открыть на Интернете сервер для книголюбов, желающих заказать книгу на дом. По этому случаю оно обратилось к писателю с предложением написать первую и последнюю главу интерактивного романа, который допишут “интернавты”.*

**— Как Вы отреагировали на предложение написать первую главу интерактивного романа для Интернета?**[1]

— Я нашел его соблазнительным. В процессе написания интерактивного романа мой взгляд на машину и коллективизм изменился, а также передо мной возник ряд новых вопросов. Раньше я представлял себе писателя затворником, творящим в полной изоляции от окружающего мира. Новый же опыт показал, что писатель может оставаться отшельником и жить наедине со своей машиной — компьютером и при этом писать коллективный роман в едином стиле и настроении. Невозможно представить себе конечный результат, ведь это премьера. И тем лучше! Писатель должен любить риск! В любом случае этот опыт заключает в себе риск: в результате может получиться буриме[2]. А это уже не роман, а лишь забавное стилистическое упражнение.

**— Вы выбрали серьезный сюжет — смертная казнь...**

— Я назвал роман “Убить тридцать дней”. Отправной точкой послужила реальная история Карлы Тюкер: осужденная на смертную казнь женщина получает от губернатора тридцатидневную отсрочку исполнения приговора. Что она будет делать во время нее? О чем размышлять? Как повлияет ее судьба на мнение сторонников и противников смертной казни? Смертная казнь, налагаемая законом, является важной философской темой для размышлений всей планеты. Все это очень интересные вопросы. Следует ли верить в искупление своей вины индивидуумом? В первой главе я специально туманно говорю об этих проблемах, чтобы дать “интернавтам” полную свободу развивать роман в любом направлении.

**— Специальное жюри должно будет затем отобрать лучшее продолжение. Это трудно?**

— Да, так как все, что мы получили, очень хорошо написано. Я был очень удивлен качеством текстов. Сожалею, что пришлось забраковать некоторые главы, которые, повторюсь, были прекрасно написаны. Но нужно было придерживаться единой интриги. Казалось, что все это написано одним человеком. То ли потому, что существует стиль Интернет, то ли из-за того, что мы живем в эпоху унификации законов и культур.

**— Вы должны будете написать последнюю, восьмую, главу. Трудно ли “идти следом за другими”?**

— Нет, что вы! Наоборот! Это моя самая любимая глава. Одним штрихом я могу “стереть” все, что было написано до меня, придумать новый поворот, вообразить, что все это приснилось Кларе в кошмарном сне... Все возможно. Я обладаю неограниченной свободой выбора.

**— Как, по-вашему, сложатся взаимоотношения между Интернетом и литературой?**

— Ошибочно полагать, что Интернет может затмить литературу. Необходимо приручить эту машину будущего. И тогда мы придем к достаточно традиционной схеме: Интернет помогает учиться писать и читать. Не стоит рассматривать его в качестве соперника письменному слову. Благодаря интерактивному роману я понял, что прогресс является также хранителем традиций, и что одиночество творца и коллективизм Интернета могут прекрасно совмещаться. И потом, это же настоящее чудо: благодаря Интернету можно общаться со всеми людьми на нашей планете, говорящими по-французски, и писать вместе книгу, которая будет затем опубликована. И в этом приключении прошлое и будущее идут рука об руку.

**— Под чьим именем выйдет книга?**

— Этот вопрос был у всех на устах, но никто не ответил на него. Я считаю, роман должны подписать все участники. Будет просто неприлично, если на обложке появится только моя фамилия! Совершенно очевидно, что надо написать имена всех.

**— Трудно ли работать на Интернете?**

— Издательство “Франс Луазир” подарило мне абонемент. Когда я сажусь за компьютер, я чувствую себя как в кабине пилота самолета! Вначале я сдержанно относился к информатике. Но сейчас я преодолеваю неприязнь и учусь.

**Интервью подготовила Сильви БЮЛЛО.**

*1. http:/www.franceloisirs.com/forums.*

***2. Буриме — игра в слова, придуманная сюрреалистами, в которой каждый из участников дополняет фразу словом, не зная слов, написанных другими.***

